# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 14 (632) ГОД XIII 7 КРАСАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### АГЛЯД АМАТАРСКІХ КАЛЕКТЫВАЎ

У нядзелю 24 сакавіка ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбыўся агляд аматарскіх калектываў з рэпертуарам на беларускай мове. Арганізатарам гэтага агляду было праўленне Гайнаўскага аддзела БГКТ.

У аглядзе ўзяло ўдзел два драмгурткі і эстрадны калектыў БГКТ з Гайнаўкі.

Аматары з Ляшукоў пад кіраўніцтвам настаўнікаў Аляксандра Харкевіча і Аляксея Харкевіча выступалі з драмай Міколы Алтухова і Міколы Гарулёва пад заталоўкам «Выбух». Драма гэта ў трох актах. Пераносіць яна сваімі падзеямі гледача ў гады нямецкай акупацыі, калі партызанскі рух на Беларусі вядзе барацьбу з ворагам на смерць і жыццё і на кожным кроку праследуе нямецкіх захопнікаў. Змест пастаноўкі цікава развіваецца і паказвае існуючую атмасферу ў тыя гады, якая перш за ўсё характарызуецца ўмела арганізаваным падполлем і гераізмам партызан. Гэтай драмы нашыя драмгурткі БГКТ яшчэ не ставілі. П'еса даволі цяжкая да рэалізацыі, патрабуе шмат асоб і многа рэжысёрскай здольнасці, а таксама добрых выканаўцаў. З гэтымі заданнямі моладзь і настаўнікі з Ляшукоў нядрэнна справіліся.

Самадзейнікі з вёскі Сухавольцы выступалі з вядомай камедыяй «Дзесяць гектараў», аўтарамі якой з'яўляюцца Уладзімір Цілюлька і Яўгень Блізнюк.

На асобнае падкрэсленне заслугоўвае вясковы хлапец Сяргей Масальскі, які з'яўляецца і мастацкім кіраўніком драмгуртка і выканаўцам адной з важнейшых роляў. Аб ім і аб моладзі з Сухавольцаў шырэй напішам у адным з наступных нумараў. Таксама фотарэпартаж хутка змесцім аб эстрадным калектыве з Гайнаўкі, які на аглядзе паказаў высокі свой мастацкі ўзровень.

Усе тры ўспомненыя калектывы атрымалі ўзнагароды ад ГП БГКТ і ад аддзела асветы і культуры прэзідыума ПРН у Гайнаўцы.

Крытычныя заўвагі. Калі верыць справаздачам Гайнаўскага аддзела БГКТ, дык у гэтым павеце ў мінулым годзе налічвалася семнаццаць аматарскіх маладзёжных калектываў. Колькасць гэтых калектываў узрастае штогод пасля новага года, таму што ў многіх мясцовасцях моладзь на калядныя святы і пасля калядаў рыхтуе шмат пастановак. Выступіць моладзь з пастаноўкай раз, а рэдка некалькі разоў, і гэта ўсё. Магчыма здарыцца так, што аб такім драмгуртку мала хто ведае. І таму па-мойму найлепш арганізаваць агляды ў лютым або ў канцы студзеня. Гэта адна справа. Другая справа датычыць самога Гайнаўскага аддзела, які нічога не зрабіў, каб у гэтых аглядах (іх нельга назваць аглядамі) узяло ўдзел больш драмгурткоў. Мне выдаецца, што няма ніякага сэнсу арганізаваць агляды толькі для двух гурткоў і для гайнаўскай эстрады. Трэцяя справа. Калі няма больш харавых калектываў, падобных да харавога жаночага калектыву з Гайнаўкі (яго называюць эстрадай), дык няма патрэбы, каб толькі адзін хор браў удзел у аглядах. У такім выпадку няма з кім яму спаборнічаць. А варта арганізаваць агляд харавых калектываў. Ёсць іх у нас тры: у Бельску, Гайнаўцы і Гарадку. Усе яны працуюць у амаль аднолькавых умовах.

**М. Хмялеўскі**

---

БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА І Я



## ІНТЭРВ'Ю ДАЕ ЭМІЛІЯ КУНАВІЧ

Першае пытанне, з якім мы звярнуліся да польскай пісьменніцы **Эміліі Кунавіч**, было такое:

**Ваша кніжка «Сэрцы ненасытныя» з'яўляецца кніжкай аб беларусах — кніжкай пра гора, пра каханне, пра адданасць. Анютка і Абольскі, каханне і адданасць — ці гэта трагічна верныя сабе закаханыя?**

**Эмілія Кунавіч** адказвае:

**«Сэрцы ненасытныя»** гэта кніжка пра грамадскага дзеяча, які да канца свайго жыцця застаецца верным ідэі нясення дабра грамадству і дзеля гэтай ідэі адмаўляецца нават ад уяўнай магчымасці ўратаваць сваё жыццё. Рухавіком жыцця грамадскага дзеяча з'яўляецца жаданне дабра чалавецтву, імкненне ліквідаваць грамадскія крыўды, заспакоіць патрэбы грамадскасці. Можна дасягнуць у жыцці свае асабістыя мэты, але праца для грамадскасці перарастае магчымасці аднаго чалавека, яго жаданне грамадскай справядлівасці не будзе заспакоена дасягненнем мэты.

Прырода з'яўляецца мне крыніцаю, з якой чэрпаю сілы і шчасце. Першым трапятаннем свядомасці пакахала я кветкі. Пішу аб гэтым у **«Дзяцінстве»**, біяграфічнай кніжцы, у якой апісваю мае канфлікты са светам людзей і маё шчасце ў сутыкненні з прыродай. Пасля Падоля і Татраў адкрыўся ў маім жыцці вялікі, прыгожы, трагічны перыяд Беларусі. (Пісьменніца нарадзілася на Падолі, выхоўвалася ў Закапаным — ад рэд.). Факт, вядомы яшчэ з гімназісцкіх гадоў, што беларуская мова з'яўлялася дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім, чытанне надпісаў у віленскай кафедры на магільні Казімера, сына Казімера Ягайлавіча, ужо даўно звярнулі маю ўвагу на важнасць мовы забытага беларускага народа. Несумненна быў гэта, як дадумваюся, народ са шматвяковай культурай. Калі вырашыла я ехаць на Беларусь у якасці народнай настаўніцы, адгаворвалі мяне ад таго, тлумачачы, што загіну ў тых дзікіх ваколіцах, сярод непісьменных, прымітыўных людзей, без ніякай культуры. Паехала, пражыла там трынаццаць год, а ўсё, што там знайшла, было штодзённым адкрываннем прывабнасцей першабытнай прыгажосці гэтай краіны і яе карэннай даўняй культуры.

Самую ж мову беларускую, якой саромеліся тады беларусы, гаворачы, што гэта «простая мова», цаню высока, як адну з найбольш старажытных еўрапейскіх моваў, а таксама таму, што з'яўляецца яна накшталт маста паміж польскай мовай і рускай. Найбольш каштоўнымі з'яўляюцца архаічныя песні, навязваючыя да пачаткаў чалавечага быту на тамтых землях. Песні гэтыя пра Лада, пра купалейку, пра тое, як «на балоце касец косе», дзіцячыя спеўкі, загадкі, байкі, прымаўкі і жарты паглынала я хцівым розумам і сэрцам, бо ў іх прыгажосць псіхікі люду сотні гадоў таму назад. З'яўлялася мне гэта быццам адкрываннем археалагічных помнікаў у думках старых людзей. Зразумела таемныя сувязі, якія звязваюць песні вясельныя, жніўныя, асеннія і ўсялякія іншыя з чорнымі барамі Беларусі, яе святлістымі бярозавымі гаямі і сінеючымі сярод кветак ручайкамі. Мне непатрэбна было нічога запісваць. Гэта запісала трывала і дакладна мая памяць. Тут, на Беларусі, адкрыліся мне вочы на барацьбу чалавека супроць галечы і зразумела я, якой зброяй з'яўляецца чалавеку адукацыя. Знайшла я сваё прызначэнне ў тым, што павінна дапамагаць людзям ва ўсім, а перад усім у павышэнні жыццёвага стандарту. Першы год працы ў Забалоцці прамінуў на безупынным здабыванні сельскагаспадарчых ведаў; вясною засеяла агарод згодна з усімі правіламі аграноміі, а ўвосень, калі мая гародніна вырасла на дзіва вялікае, прыйшла да мяне дэлегацыя з вёскі, каб навучыць іх догляду гародніны. Я ўвайшла ў іх рады і такім чынам сама таксама ўнесла сваю частку да культуры Беларусі.

Інтэрв'ю ўзяў
**Сакрат Яновіч**

---

Сустрэчы з землякамі

## ДЫРЭКТАР САМАЙЛЮК

Ва ўсходнім кутку Сямяціцкага павета знаходзіцца вёска Вычулкі. У гэтай вёсцы нарадзіўся Мечыслаў Самайлюк. Бацька яго памёр у час акупацыі, а маці... гэта аддзельная гісторыя.

Прафесіянальную працу пачаў яшчэ восенню 1944 года. Быў настаўнікам пачатковай школы ў Клюковічах, арганізаваў гэтую школу, як толькі прагрымеў фронт.

— Дзяцей вучыў я нядоўга, — гаворыць таварыш Самайлюк, — усяго да 1945 года, але выхаваўчую дзейнасць сярод старэйшых прыйшлося весці яшчэ шмат гадоў.

Ад 1945 года з'яўляецца ён членам Польскай рабочай партыі. Арганізаваў партыйныя ячэйкі клюковіцкай гміны. За такую працу плацілі тады часта жыццём. Адважных людзей патрабавала партыя. Самайлюка забралі ў Бельск, у Жавятовы камітэт ППР, каб наладзіў прапагандысцкую працу ў павеце, якога межы расцягваліся тады на Гайнаўшчыну і на Сямяцічы.

— Аднойчы меў я ехаць па партыйным заданні ў сваю родную вёску. Бандыцкая разведка неяк гэтае разнюхала. Ноччу з'явіліся ў хаце маёй маці. Мяне там не было. Іншыя справы спынілі мой прыезд. НСЗ-таўцы не верылі маме. Білі яе, мучылі, каб выдала, дзе я схаваўся. Пасля гэтага мама жыла ўжо нядоўга.

Мечыслаў Самайлюк працаваў у многіх гарадах. Працаваў і вучыўся. Быў у Элку і ў Граеве, у Беластоку і ў Кашаліне. Там 5 год быў сакратаром прапаганды Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Калі накіравалі яго ў Кашалін, Кашалінскае ваяводства толькі тварылася, як самастойная адміністрацыйная адзінка на тэрыторыі заходняга Прымор'я.

— Прыйшлося рабіць усё ад пачатку: арганізаваць самастойны апарат прапаганды, засноўваць газету, радыёстанцыю, дом культуры, тэатр і т.п. Шукаць людзей, кадраў.

Прытым усім знайшоў ён яшчэ час і сілу, каб угрунтаваць сваю адукацыю — закончыў тады Вышэйшую адміністрацыйна-праўную студыю Торуньскага універсітэта.

У 1955 годзе Самайлюка перавялі да працы ў рэдакцыю «Хлопска Дрога». Гэта вядомы тыднёвік для сялян, якога выдае Цэнтральны Камітэт ПАРП. У рэдакцыі стаў ён загадчыкам культурнага і партыйнага аддзелаў.

— Тады пачалася для мяне тыповая журналісцкая праца, хаця і раней, асабліва ў Кашаліне, давялося мне часта пісаць артыкулы, — сцвярджае наш зямляк.

Пад канец 1958 года Бюро друку Цэнтральнага Камітэта ПАРП звярнулася да яго, каб дапамог арганізаваць тыднёвік «Край рад».

— Вы, таварыш, — гаварылі яму, — ведаеце рускую мову і, што важнейшае, ведаеце добра зацікаўленні і псіхіку будучых чытачоў.

Працаваў там 5 год.

Некалькі год таму назад у нашай краіне многа і крытычна пачалі гаварыць аб замежным гандлі. Гэтая праблема разглядалася нават на адным Пленуме ЦК ПАРП. Поспехі ў гандлі абумоўлены між іншым добрай прапагандай.

І тут у Мечыслава Самайлюка паявілася новае заданне: наладзіць спраўную, эфектыўную прапаганду ў замежных краінах усяго таго, што Польшча мае і хоча прадаваць на замежных рынках. Стаў ён дырэктарам Выдавецтва Міністэрства замежнага гандлю, якое зараз выдае 7 рознага роду часопісаў на 19-ці мовах.

— Калі я прыйшоў сюды да працы, — гаворыць дырэктар Самайлюк, — Міністэрства замежнага гандлю выдавала 2 інфармацыйныя часопісы. Але выдавецтва такога роду, якое яно ёсць зараз, прыйшлося арганізаваць ад асноў. Зараз маем 35 тысяч пастаянных падпісчыкаў на нашыя часопісы. Яны рассеяны па цэлым свеце. Другія дзесяткі тысяч экземпляраў нашых газет трапляе за мяжу іншымі каналамі.

Пераглядаю некаторыя часопісы на рускай і нямецкай мовах. Перш за ўсё кідаецца ў вочы незвычайна высокая



тэхніка друкавання, шматкаляровыя дасканалыя здымкі.

— Ці часам наведваеце свае родныя старонкі? — пытаю.

— Не часта гэта здараецца. Часу не хапае. Паглынае яго прафесіянальная праца і грамадская дзейнасць. Уваходжу я ў састаў розных праграмных і выдавецкіх камісій у Варшаве і ўжо 5-ты год з'яўляюся сакратаром нашай партыйнай арганізацыі. Але заўсёды лічу сябе беластачанінам. Часта наведваюць мяне землякі ў Варшаве. Прыязджаюць за парадай, прывозяць свае клопаты і радасці, начуюць у мяне, расказваюць пра родную вёску і яе наваколле, разам успамінаем мінулыя бурлівыя гады.

**В. Рудчык**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ТРАГІЧНАЯ СМЕРЦЬ Ю. ГАГАРЫНА

Цэлы свет ускалыхнула вестка аб трагічнай смерці чалавека, які ўпершыню наведаў касмічную прастору, — **Юрыя Гагарына.** Дзень 12 красавіка 1961 года, калі здзейсніў свой смелы палёт, стаўся пачаткам эпохі. Дзень яго смерці аб'яднаў усё чалавецтва ў глыбокім смутку і глыбокай пашане да піянера міжпланетных дарог.

Траурныя ўрачыстасці пахаронаў **Ю. Гагарына** і яго сябра **В. Сярогіна** сцягнулі шматтысячны натоўп людзей. Прайшлі тысячы людзей у маўчанні перад урнамі з прахамі герояў не скрываючы сваіх слёз. Юрый быў не толькі слаўным чалавекам, але ўзорам бацькі, сябра, чалавека наогул. Гагарын пакінуў па сабе ўдаву Валю і асірочаныя дочкі: — 9-гадовую Лену і 7-гадовую Галю.

Урны з прахамі герояў Ю. Гагарына і В. Сярогіна пахавана ў нішах Крамля.

### НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ

У суботу 30 сакавіка т.г. на ўрачыстым пасяджэнні Чэхаславацкі парламент у тайным галасаванні выбраў генерала арміі героя Чэхаславакіі і СССР **Людвіка Свабоду** новым прэзідэнтам Рэспублікі.

З агульнага ліку 288 галасуючых дэпутатаў — 283 аддало галасы на Л. Свабоду. Пяць дэлегатаў устрымалася ад голасу.

### АДКЛІКАННЕ ВЕСТМОРЛЕНДА

...з'яўляецца праломам амерыканскай стратэгіі ў В'етнаме. Аналізуючы яе, выдатны французскі эксперт сцвярджае, што **партызанскае наступленне дасягнула ваенны поспех: прыкавала амерыканскія войскі да баз і вялікіх гарадоў, астаўляючы партызанам свабодную ініцыятыву ва ўсёй краіне.**

Адстаўку Вестморленда ўмела выкраў **Роберт Кенедзі.** Указваючы на банкруцтва яго стратэгіі, якую падтрымліваў усім сваім аўтарытэтам Джонсан, высунуў Кенедзі сваю ўласную праграму развязкі в'етнамскай праблемы. Удасца яе развязаць не ваеннымі, але толькі палітычнымі сродкамі — сказаў Кенедзі. У іншай прамове Р. Кенедзі заявіў, што неадкладна трэба спыніць бамбардзіроўкі Паўночнага В'етнама, а на Поўдні «прызнаць Нацыянальнаму Фронту Вызвалення поўны ўдзел у палітычным жыцці краіны». Кенедзі бачыць у гэтым адзіны спосаб урэгулявання в'етнамскай праблемы.

### НА БЛІСКІМ УСХОДЗЕ

...з віны агрэсіўных кругоў Ізраіля сітуацыя завастраецца. Міма, што Савет Бяспекі аднадумна асудзіў напасць Ізраіля на Іарданію, акрэсліваючы гэта як «яркае парушэнне Карты АН і рэзалюцыі аб спыненні агня», падкрэсліваючы, што так сур'ёзнага парушэння перамір'я «нельга надалей цярпець», Ізраіль надалей прабуе сілай стэрарызаваць Іарданію.

Аднак іарданскія войскі задалі агрэсару такія страты, што пачалі яны непакоіць нават Ізраіль. (А.К.)

## БССР

### НАСТАЎНІКАЎ

Адбыўся з'езд настаўнікаў Беларусі, у якім удзельнічала звыш тысячы дэлегатаў. На з'ездзе прысутнічалі: першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі **П. Машэраў,** сакратар ЦК С. **Пілатовіч,** віцэпрэм'ер **У. Лабанок,** кіраўнік камсамола Беларусі **Г. Жабіцкі,** прэзідэнт Акадэміі навук БССР **У. Купрэвіч** і іншыя асабістасці, запрошаныя госці, у іх ліку дэлегацыі братніх саюзных рэспублік.

З дакладам: **«Аб павышэнні ролі школы ў камуністычным будаўніцтве»** выступіў міністр асветы БССР **Р. Кісялёў,** які між іншым, сказаў:

«Мы вымушаны з жалем адзначыць, што ў шмат якіх месцах усё яшчэ дапускаецца нічым не апраўданае марнатраўства сіл, энергіі, рабочага часу педагогаў і кіраўнікоў школ.

Ёсць розныя прычыны гэтай недапушчальнай з'явы. Педагагічныя выдавецтвы і навучальна-тэхнічная прамысловасць кепска яшчэ забяспечваюць школы метадычнай літаратурай і нагляднымі дапаможнікамі, што вымушае настаўніка самому траціць час на выраб такіх дапаможнікаў. Але ёсць і іншая група прычын, якія выклікаюць страту навучальнага часу: усемагчымыя выклікі педагогаў і кіраўнікоў школ у рабочы час на розныя нарады, пасяджэнні».

### ГРОДЗЕНСКАГА

Адбыўся пленум Гродзенскага абласнога камітэта партыі, на якім першы сакратар **І. Мікуловіч** выступіў з дакладам аб задачах абласной партыйнай арганізацыі ў сувязі з 50-годдзем Беларускай Дзяржавы і Кампартыі Беларусі. М. ін. звернута ўвагу на некаторыя праявы маруднасці ў падрыхтоўцы гэтага вялікага свята.

На пленуме меў прамову сакратар ЦК КП Беларусі **С. Пілатовіч.**

### «БЕЛАРУСЬНАФТА»

«Беларусьнафта» становіцца патэнтатам. Ужо здадзена ў эксплуатацыю 26 крыніц нафты на Палессі. Нядаўна хлынуў новы магутны прыток нафты з, так званай, шчыліны нумар 47.

**Агулам** за першы квартал здабыта на каля 1.200 тон нафты больш, чым планавалася.

### 500

З выпадку 500-сотай перадачы **«У Язёранах»** у беларускім друку змешчана інфармацыі аб гэтай надта папапулярнай у нас перадачы Варшаўскага радыё.

У гэтай перадачы працуе 40 артыстаў, якія выступаюць у галоўных ролях, і больш 200 чалавек, якія ўдзельнічаюць у эпізодах. **Іх праца — гэта паказ жыцця ў цяперашняй вёсцы.**

Папулярнасць перадачы «У Язёранах» перарасла папулярнасць вядомай падобнай перадачы **«Матысякі»,** прызначанай для гарадскога радыёслухача.

### «ЛЯВОНІХА»

**«Лявоніха»** існуе не толькі пры нашым ГП БГКТ.

У Беларускай філармоніі ўтворана эстраднае рэвю «Лявоніха», з рэпертуарам на беларускай мове.

Беларускае эстраднае рэвю плануе турнэ па гарадах Саюза ССР. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ВЕРНАСЦЬ ПАЛІТЫЦЫ ПАРТЫІ

«Мы свядомыя таго, — піша калектыў Фабрыкі самаходаў асабовых на Жэрані ў сваім пісьме да Уладзіслава Гамулкі, — што народная ўлада і партыя акрэслівае мэту і сэнс нашага жыцця. Таму ад імя інтарэсаў народа і партыі чакаем на рашучыя і паслядоўныя арганізацыйныя і палітычныя меры ў адносінах да ўсіх інспіратараў і апекуноў апошніх падзей без улічвання пасад, якія займаюць яны ў партыі і адміністрацыйным апараце».

Рабочыя гэтай фабрыкі інфармуюць адначасова таварыша Уладзіслава Гамулку, што для адзначэння V з'езда партыі ўзялі на сябе прадукцыйныя абавязацельствы на агульную суму 85 мільёнаў злотых, а таксама і аб тым, што ў апошнім часе 78 членаў калектыву фабрыкі выказалі ахвоту ўступіць у рады партыі.

Падобнага зместу рэзалюцыі, лісты і пастановы прынятыя на шматлікіх мітынгах і сходах рабочых і працуючай інтэлігенцыі наплываюць сотнямі на адрас Уладзіслава Гамулкі і Цэнтральнага Камітэта партыі. Ва ўсіх патрабуецца суровага пакарання тых людзей, якія, высунутыя на адказныя пасады, не апраўдалі даверу рабочага класа, а таксама патрабуецца ачысткі нашага жыцця з рэакцыйных і сіяніцкіх элементаў, якім чужыя справы нашага народа.

### ПАБОЛЬШВАЮЦЦА РАДЫ ПАРТЫІ

Аб поўнай падтрымцы для партыі, яе кіраўніцтва і Уладзіслава Гамулкі сведчыць безупыннае пабольшванне радоў партыі новымі членамі. Так, напрыклад, партыйныя арганізацыі Катавіцкага ваяводства ад пачатку мінулага месяца прынялі ў рады кандыдатаў партыі каля 1500 асоб. Звыш 65 працэнтаў навапрынятых — гэта рабочыя. На Любліншчыне ўступіла ў апошнія дні ў рады партыі каля 400 асоб. Таксама лодзінскія партыйныя арганізацыі адзначаюць значны наплыў новых членаў. Так, напрыклад, у фабрыцы баваўнянай прамысловасці за апошнія тры тыдні ўступіла ў партыю 28 асоб. Лік гэты ў два разы большы ад сярэдняга ліку ўступаўшых у партыю ў папярэднія месяцы. Усе ўступаўшыя выяўляюць поўную падтрымку для палітыкі партыі і яе кіраўніцтва.

### ПАМЯЦЬ НАРОДА

У сувязі з тым, што красавік з'яўляецца месяцам нацыянальнай памяці, Саюз змагароў за свабоду і дэмакратыю апублікаваў адозву, у якой між іншым чытаем:

«Палова грамадзян нашай краіны — гэта пакаленне, якое не прымала ўдзелу ў вайне, не перажывала акупацыйнага тэрору, не цярпела ў турмах і лагерах. Нашым абавязкам з'яўляецца памятаць аб тых часах і ім гэта пераказаць, так каб традыцыя змагання старэйшага пакалення мела ўплыў у фармаванні светапогляду і паставы моладзі». (уп)

## ВАЯВОДСТВА

### АСУДЖЭННЕ АВАНТУРЫСТАЎ

29 сакавіка г.г. адбылася ў Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку нарада партыйнага актыву Беластоцкага ваяводства. Нарадай кіраваў І сакратар **Ваяводскага камітэта** тав. А. Лашэвіч. Ад імя экзекутывы ВК ПАРП прадставіў ён прысутным ацэнку цяперашняй палітычнай сітуацыі ў краіне і ваяводстве, а таксама акрэсліў асноўныя заданні партыйных арганізацый, якія вынікаюць з гэтай сітуацыі. Між іншым тав. А. Лашэвіч заявіў: «Інспіратары і арганізатары апошніх палітычных авантур пацярпелі паражэнне... Іх планы і намеры разбіла салідарнае, суцэльнае становішча грамадства, а перш за ўсё становішча рабочага класа, які, — як гаварыў тав. Веслаў, — «загарадзіў дарогу разбуральнікам парадку, спыніў неадказныя выступленні». Як рэдка калі пачулі мы ў гэтых днях вялікую падтрымку і вялікі давер, якімі дарыць нашую партыю і яе І сакратара тав. Гамулку пераважаючая большасць народа...»

Кім былі арганізатары варшаўскай палітычнай авантуры? Тав. А. Лашэвіч ахарактарызаваў некаторых з іх так: «Знойдзем тут аднаго з найбольшых, калі не найбольшага дагматыка і старонніка палітыкі «замардызма» — Рамана Замброўскага, найбольшага рэвізіяніста Лешка Калакоўскага, старога рэакцыяністу і клерыкала Стэфана Кісялеўскага, дагматычнага ідэолага, які заслужыўся у пусташэнні творчай марксісцкай думкі — Верфля, пілсудчыка — Гжэндзінскага, сённяшняга сіяніста, а ўчарашняга заўзятага антысэміта — Сланімскага, члена рэакцыйнай банды, якая забівала дзеячоў ППР і прыхільнікаў народнай улады — Павла Ясеніцу, мараліста і чалавека, які ганарыўся так званымі «прынцыпамі» і які адкрыў вусны толькі тады, калі пазбыўся партыйнага білета — Анджэеўскага і былога шэфа друку, які безагаворачна знішчаў самыя малыя журналісцкія ўхібы, а сённяшняга «энцыклапедыста», які фальшуе гісторыю — Сташэўскага...»

Поўны тэкст прамовы тав. А. Лашэвіча маглі нашы чытачы прачытаць у «Газеце Беластоцкай». Варта аднак адзначыць, што ён шчыра падзякаваў рабочым, сялянам, моладзі і інтэлігенцыі Беласточчыны за стойкую падтрымку палітыкі нашай партыі і яе правадыра, тав. Веслава. Праявілася гэта перш за ўсё ў масавых прадукцыйных абавязацельствах у гонар V з'езда ПАРП. Іх вартасць на Беласточчыне перавышае 100 мільёнаў злотых. У апошніх бурлівых днях сакавіка ў рады партыі ўступіла ў Беластоцкім ваяводстве звыш 200 асоб.

Удзельнікі нарады накіравалі тав. Уладзіславу Гамулку ліст, у якім між іншым сцвярджаюць, што: «Рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя і моладзь Беласточчыны ў гэтых днях з яшчэ большай сілай выказаліся за слушнай палітыкай партыі, поўнасцю падтрымоўваюць становішча яе кіраўніцтва адносна наступіўшых здарэнняў...» (ВР)




**NIEDZIELA, 7.IV.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: „Pytania i odpowiedzi". 9.40 „Przypominamy, radzimy". 10.00 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia dla przyjaciół" (Leningrad). 10.30 „Specjoza" — film pol. 10.40 „Wizyta w pustyni" — film pol. 11.00 Sprawozdanie sportowe. 13.35 Dziennik. 13.45 „Bawcie się z nami". 14.15 „Kapelusz cesarza" — film („Uciekinier") — odcinek ostatni. 14.40 „Przemiany". 15.10 „Ula i świat" 15.35 „Kamera 68". 15.45 „Bronimy bramki' — teleturniej. 16.50 „Piórkiem i węglem". 17.10 Estrada Literacka: „Lutnia w Bekwarku" — poezje J. Lechonia. 17.55 „Ludzie i zdarzenia". 18.10 „Gdy w ogrodzie botanicznym zakwitną bzy" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Napad w Rowhide" — film fab. USA. 21.30 „Mini w kontuszu". — program rozrywkowy. 22.30 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 8.IV.**

15.45 i 22.40 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 „Kino Ptyś". 17.25 „Tramp". 18.05 „Eureka". 18.35 Radziecki koncert estradowy — film. 18.50 „Próby". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Z. Stolarek — „Sygnet" — pieśń o wierności — dramat poetycki. 21.20 „Kapela" — rep. filmowy. 21.50 „Klaps". 22.20 Dziennik.

**WTOREK, 9.IV.**

9.15 „Pięciu" — film fab. pol. 10.55 Dla szkół (kl. X) Język polski: J. Conrad - Korzeniowski — „Jutro". 11.25 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl II) „Sprawiedliwa ocena". 12.15 Przerwa. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Choroby nie muszą być groźne". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Szymon i Kubuś" (V). 17.20 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 „7 milionów młodych". 18.40 „Giełda piosenki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zamiast posagu" — program Red. Młodz. 20.35 „Pięciu" — film fab. pol. 22.10 „Niobe z Olecka" — rep. filmowy. 22.35 Dziennik.

**SRODA, 10.IV.**

9.00 „Trzy szmaragdy" — film („Sherlock Holmes"). 9.55 Dla szkół (kl. VI) „Zastosowanie sprężonego powietrza". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie: „Czerwone berety". 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.10 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Teatrzyk Kieszonkowy". W. Bandrowski — „Krawiec igiełka". 17.20 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.30 PKF. 17.40 „Telekram". 17.50 Wszechnica TV: „Malarstwo weneckie od Belliniego do Tiepola" cz. II. („Jak patrzeć na dzieło sztuki"). 18.20 „Ludzie, konie, cyrk" — film TV radz. 18.50 „Jan Sebastian Bach" — program muzyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Trudny wybór" — film TV węg. 20.25 „Świtowid". 21.00 „Trzy szmaragdy" — film („Sherlock Holmes"). 21.50 „Panorama Literacka". 22.20 Dziennik.

**CZWARTEK, 11.IV.**

9.00 „Teleferie"; 1. „Towarzystwo Zagadkowe Poranne" 2. „Orzeł" — Film fab. pol. 10.40 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1. „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne". 2. „Rycerz Zawierucha" — film (XI), 3. „Magiczna pałeczka" (I). 18.00 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.30 „Z kamerą po świecie". 18.45 Koncert Wielkiej Orkiestry Polskiego Radia i Telewizji pod dyr. W. Ormickiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Horyzonty". 20.35 Teatr „Kobra". Z. Śliwiec: „Spisek przeciwko Talce". ok. 21.40 „Refleksje". 22.10 Dziennik.

**PIĄTEK, 12.IV.**

9.00 „Teleferie": 1. „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2. „Tajemnica dzikiego szybu" — Film fab. pol. 10.40 Przerwa. 16.50 Program dnia: 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1. „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 2. „Magiczna pałeczka" (II). 17.40 „To, co najlepsze". 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 Wszechnica TV: „Stacje orbitalne" („Człowiek i maszyna"). 18.55 „Marihuana" — rep. filmowy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennikł 20.05 „Gorąca linia". 20.40 „Wielcy artyści" — program muzyczny. 21.10 „10 minut recenzji". 21.20 Program publicystyczny. 21.50 „Śnieg stopniał nad Manicouagan" — film fab. kanad. 22.20 Dziennik.

**SOBOTA, 13.IV.**

9.00 „Teleferie": 1. „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2. „Błękitny krzyż" — film fab. pol. 10.40 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.25 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1. „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 2. „Magiczna pałeczka" (III). 17.55 „Gawędy wilków morskich". 18.15 „Spotkania z przyrodą". 18.40 „Artyści areny" — film (II). 19.20 Dobranoc .19.30 „Monitor". 20.05 „Katarynka" — polski film telewizyjny wg noweli B. Prusa (premiera". 20.35 „Krzysztof Penderecki" („Portrety"). 21.20 Dziennik. 21.35 „Zuchwalec" — film fab. fr. 23.05 „Teatrzyk Antoniego Marianowicza".




**Piątek, 5 kwietnia**

8.30 „Kto winny?" Spektakl TV. 14.20 „Nowiny". 14.30 Program dnia. 14.35 Język angielski dla przedszkolaków. 15.00 „Drugiego kwietnia". Spektakl TV. 16.00 Program wiejski. 16.30 Dla szkół. 17.00 Klub Filmowy. 18.15 Przerwa muzyczna. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.30 „Czyn zwiadowcy". Film. 21.00 „5+2". 21.30 Program muzyczny.

**Sobota, 6 kwietnia**

7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Dla studentów. 9.30 Język angielski dla przedszkolaków. 10.00 Hokej: „Spartak" — CSKA. 12.15 „Reportaż sobotni". 12.45 „Stronice startów". Film. dok. 13.45 Człowiek i przyroda. 14.15 „Słońca i wiatru brat". 14.45 Wiersze poetów wietnamskich. 15.15 Program wiejski. 16.00 Piłka nożna: „Dynamo" (Tbilisi) — „Spartak" (Moskwa). 17.45 Klub Dowcipnych. 19.15 „Czas". 19.45 Kronika Filmowa. 20.00 Teatr Literacki. 21.00 Dziennik. 21.15 Koncert estradowy. 21.45 Program na jutro.

**Niedziela, 7 kwietnia**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Dziennik. 8.00 „Bogactwo ziemi". 8.30 Reportaż z pawilonu „Kosmos". 9.00 Dla młodzieży. 10.00 Dla uczniów. 10.30 Koncert liryczny. 11.00 „Echo". 11.40 „Szkatułka muzyczna". 12.00 Bohaterowie naszych czasów. 13.00 Hokej. Półfinał Pucharu ZSRR. 15.45 „Kiosk muzyczny". 16.15 „Człowiek — amfibia". Film. 17.50 „Almanach muzyczny". 18.45 „Siedem dni". 19.30 Piłka nożna: „Włochy — Bułgaria". Druga połowa. 20.15 Teatr literacki. 21.05 „Bądź szczęściwa, rzeko". 21.15 „Tylko fakty".

## Заўжды гатоў

Да ўсіх сцяжын дамоў,
Чуллівасці бацькоў,
Да беларускіх слоў,
Цяжарнасці палёў,
Духмянасці лугоў,
Напеўнасці лясоў —
Пакуль пульсуе кроў —
Я радасць і любоў
Аберагчы гатоў.

Віктар Швед



## МАЦІ



Ты прысніся мне ў сне
Шызакрылай галубкай
Няхай ўбачу твае
Найдаражэйшыя рукі

Няхай ласка з вачэй
Мяне ціха кране
Як калісь да грудзей
Прытулі мяне ў сне.

Ул. Гайдук



Карціна А. Хомчыка.



# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 112


## НА РУБЯЖЫ!

«Унылы голоси, пониче веселие, трубы трубят городеньскии)
(«Слова аб палку Ігаравым»)

Ці ж дадзена чалавеку спазнаць будучыню сваю? Ці ж вольна выбраць з яе самае лепшае, адкінуўшы беды і няшчасці?

Рой трывожных згадак снуецца, мітусіцца, назойліва дакучае вострымі джаламі, як машкара ў гэты парны чэрвеньскі вечар. То адсоўваецца, бы ад ветру, пад калатнёй штодзённых клопатаў, то зноў накідваецца, як тая цьма на полымя, каб згінуць у вогнішчы пякучага няведання.

Княжацкі ваявода Будзімір, прысланіўшыся плячыма да шурпатага камля сасны, утапіў свой цяжкі позірк у жаркім полымі пахавальнага кастра. Не клапоціцца ён, не дае загадаў, як гэта заўсёды бывае. На паляне, на высокім пясчаным беразе невядомага пушчанскага ручая, адбываецца дзеянне, што не патрабуе загадаў і павучанняў: дружына вершыць трызну вою Негушу.

Цела Негуша, як падобнае заслужанаму харобраму грудзю, прыбрана ў чыстае адзенне і зброю, спачывае на версе пахавальнага стуса. Ляжыць нерухома. Але языкі буйнага полымя, што ядавітымі вужамі прасоўваюцца да яго, мітусліва асвятляюць застыўшы твар нябошчыка і, здаецца, што той ажывае, усміхаецца. Можа і так. Добрым быў воем Негуш тут, у дружыне, добрым, напэўна, будзе і там, у незлічоных дружынах сварога. Гэта ён, пэўна, бачыць іх, чуе кліч баявы і таму цешыцца харобрае сэрца яго ратнае і веянне ўсмешкі распагоджвае змрочны твар... Будзь шчаслівў у сварожыцкіх палках, Негуш, будзь шчаслівў...

І пякучая, скупая слязіна сплыла няпрошаная па чэрствым твары Будзіміра: з яго дружыны адышоў назаўсёды мужны вой.

Не відаць ужо яго цела. Чыста, высокае полымя засланіла яго. Натоўп грыдзяў у поўнай зброі, трымаючы за ўзды сваіх коней, абкружыў стус. Сябры-другі сыцяць агонь паленнем і хворастам сухастою. Дружынны вяшчок Судзібог, абапіраючыся на посахкрывулю, павольна вандруе вакол стуса. Галосіць працяглым нізкім клічам, пералічвае ратныя подзвігі нябошчыка, каб яны сталі ведамы ўсёй дружыне Сварога, каб тая не палічыла яго ізгоем-адлучэнцам. Пасля кожнага акружэння Судзібог спыняецца і, павярнуўшы твар да вояў, пытае:

— Друзі, скажыце, ці праўда?

Шматгалосы хор, як рокат пушчы ў жнівеньскую непагадзь, пацвярджае:

— Вер, праўда, Сварожа!

— Ваявода, скажы, ці праўда?

І Будзімір, уздыхаючы, запэўнівае:

— Вер, праўда, Сварожа!

Доўга яшчэ будзе вандраваць-калесіць вяшчок вокал палымнеючага стуса, пакуль не адбудзе тры разы па дванаццаць ды два — столькі, колькі разоў у сваім жыцці гукаў Негуш вясну на пагорку за паселішчам; столькі, колькі яму давялося стаяць у карагодзе пры святым агні Купалля; столькі, колькі святкаваў разам са сваім родам дні халоднага Каляды...

У трызненні перад вачыма Будзіміра пацяклі-паплылі ўспаміны з апошніх дзён...

Князь гарадзенскі тры дні таму сказаў яму, Будзіміру, сабраць дзве дзюжыны грыдзяў і спешна падацца ў цвердзь Мсцішную, што на пераправе цераз раку Бобрую пры ўпадзенні ў яе рэчкі Дублы, стаіць. Да Горадні прыбыў дзён тры таму пасланец і перадаў князю, што судоўцы-яцвягі нешта заварушыліся і ля цвердзі паказаліся ў значнай сіле. У Мсцішнай ж вояў небагата і, каб самахонць не аддаць яе судоўцам, трэба сілы ў ёй пабольшыць ды з навакольля судоўцаў выбіць.

Будзімір згукнуў грыдзяў, даў дзень на зборы, і наступным свежым ранкам рушыў з дружынай на візненскі гасцінец.

Шлях віўся сярод пагоркаў і лядаў, пераскокваў цераз брустыя ручаі, знікаў у лясных гушчарах. Першыя два дні большыя і меншыя паселішчы густа абсядалі шлях або прыхіналіся ля долаў воддаль яго. Сённяшняга ж дня, да поўдня, сталі яны ўжо рэдкімі, а потым і зусім іх не бачна. Шлях, ля Горадні людны і выязджаны, звузіўся тут да ляснога тропу, які можна згадаць толькі па заплыўшых жывіцаю зацёсах на сасновых камлях.

Дружына выцягнулася ў шэраг за Негушам. Той бываў у Мсцішнай, усе праходы да яе зведаў.

І вось тут, ля гэтага ручая, зусім надвячоркам гэта здарылася...

— Друзі, скажыце, ці праўда?

— Вер, праўда, Сварожа!

— Ваявода, скажы, ці праўда?

— Вер, праўда, Сварожа!

Стрэлы сыпнулі з-за ручая, з таго, вунь, гушчару, што цяпер у цемры, быццам тхлань чарнее. Грыдзі скокнулі з гасцінца ўбакі; і яшчэ не паспеў ён, Будзімір, гукнуць ім, каб абкружалі ворага, як яны самі, па ратнай звычцы, сталі паўколлем ахопліваць крушынавы зараснік. Пакуль коні перабрылі цераз грузкі ручай і дапалі да гушчару, там ужо нікога не было. Толькі недзе за пясчанымі выгалкамі прагучэў пераможны яцвяжскі вокліч і расплыўся перакацістым рэхам па лесе.

Кідацца ў пагоню не варта было: яцвягі ў лесе расплываюцца як цені, не імеш іх тут.

Грыдзі высочвалі сляды, лічылі сілу яцвягаў. Было тых няшмат — чалавек з пятнаццаць. Але калі грыдзь Раслаў, знайшоўшы яцвяжскую стралу, паклікаў да сябе вояў — воі пасуравелі: на брэхве стралы была высечана мета з цвердзі Мсцішнай. Значыць там, пад цвердзю, быў бой. Бо і адкуль магла ўзяцца страла з мсцішскім кляймом у яцвягаў.

Дружыннікі азірнуліся за Негушам. Яго не было. Гукнулі — без водказу. Кінуліся шукаць...

Негушаў конь хроп, зачапіўшыся ўздою за стрымчаты яловы буралом. У сядле, бязвольна схіліўшы галаву на конскую грыву, сядзеў нерухома Негуш. Страла прашыла галаву. На страле таксама была мета са Мсцішнай...

Веча было нешматслоўнае. Рашылі як мага хутчэй справіць Негушу паходную трызну і паспяшацца да Мсцішнай.

Цяпер ужо полымя вогнішча невялікае. Яно стала стусам палкога жару. Яшчэ перад світаннем дружына залье яго, носячы ваду з ручая сваімі баявымі шаломамі. Попел з астанкамі Негуша старанна збяруць яны ў скураны мех, каб пасля вяртання ў Горадню справіць належнае ім урачыстае пахаванне ў мяшчоным каменнем кургане. Цяпер жа прытрочаць мех да сядла асірацеўшага Негушава каня і рушаць разам з ім у кірунку процілеглым узыходу сонца. Там рубяжы зямлі крывічоў чакаюць на сваіх абаронцаў.

Ці ж можа чалавек згадаць бег дня свайго заўтрашняга?

— Друзі, скажыце, ці праўда?

— Вер, праўда, Сварожа!

— Ваявода, скажы, ці праўда?

— Вер, праўда, Сварожа!..

Мікола Гайдук

## У МЛЫНЕ

Самое меле. Многа фураў з Сітаўкі, Прыстаўкі, Аляўкоўшчыны.

Вада клубуе. Не хочацца верыць, каб мела такую сілу. Сасноўскі ходзіць убелены, як пекар, і даглядае.

— А ты чаго тут?

Узяў мяне за каўнер.

— Я... хачу пабачыць машыну...

— Гэта не для дзяцей.

Я заплакаў.

— Чаго буіш?

Пагладзіў мяне.

— Хадзі, пакажу.

Завёў мяне там, дзе круцілася вялікае кола. Што за радасць!

— Як дарасту, пане Сасноўскі, змагу быць млынаром?

— Як дарасцеш — будзеш! — сказаў высокі, белы ад мукі, чалавек.

Эдвард Ярашэвіч

Літаратурная навінка

## ПА КВЕТКУ ШЧАСЦЯ

Так назваў сваю новую аповесць вядомы беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк. Кветка шчасця! Таемныя сілы Купальнай ночы? Можна і так. Бо ці ж не пошукам сваёй папараці з'яўляецца наша жыццё? А карпюкова папараць для нас, беластачан, асабліва блізкая. Ва ўступе аповесці чытаем: «На дзедавай спадчыне, у Страшаве і Гарадку, у наваколлі Беластока і праходзіла маё жыццё — яшчэ не напісаная аповесць, якой можна даць назву: «Па кветку шчасця».

Нашы чытачы ведаюць Аляксея Карпюка па яго аўтабіяграфічных аповесцях і апавяданнях, якія друкаваліся ў «Ніве». Яго «Дануту» і «Пушчанскую адысею» можна таксама знайсці ў нашых бібліятэках. Новая аповесць належыць да гэтага ж цыкла. А калі ўзяць апісаныя падзеі — адкрывае яго.

Уяўляю сабе, з якою цікавасцю будуць чытаць карпюкову кніжку страшаўцы, белявічане, гарадчане. Гэта ж аповесць і пра іх жыццё. Выступаюць тут не выдуманыя героі, апісваюцца не выдуманыя факты, гаворыцца не аб выдуманых мясцінах. Усё названа сапраўдным імем.

Такі падыход пісьменніка да літаратурнага матэрыялу ставіць перад ім асаблівыя патрабаванні. Уражлівасць — вельмі слабое нашае, людское, месца. А тут героі — жывыя людзі. Вочная стаўка аповесці і жыцця немінучая. Веру ў перамогу пісьменніка. Паказаў ён нам салідны кавалак нашай гісторыі. З яе супярэчнасцямі і загадкамі. Такім з'яўляецца жыццё. Яно ў аповесці А. Карпюка ідзе натуральным ходам. Мы чуем бунтарны подых 30-х гадоў, углядаемся ў змрочныя завулкі мінулай вайны, разам з аўтарам шукаем запаветную кветку.

Варта ў гэтыя пошукі ўключыць як найшырэйшае кола нашага грамадства. Аповесць надрукавана ў лютаўскім нумары «Полымя». Паколькі гэты часопіс даходзіць на Беласточчыну ў лічаных экземплярах, застаецца адно: чакаць кніжнага выдання. Але ўжо цяпер варта зрабіць адпаведныя захады: гэтая кніжка павінна трапіць пад нашыя стрэхі.

Г. Валкавыцкі

## АМАТАРЫ

# ДВА СЛОВЫ ПРА ВЫВАДЫ

**...якія выйшлі пры аналізе аматарскага руху Нацыянальнай камісіяй Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку.**

Прэзідыум камісіі дыскутаваў над гэтымі вывадамі і свае меркаванні склаў у форме вольных пастаноў Аддзелу культуры Прэзідыум ВРН у Беластоку і Ваяводскаму дому культуры ў Беластоку для разгледжання і мажлівай рэалізацыі.

Пастановы датычаць такіх спраў, як: (да Аддзела культуры Прэзідыум ВРН) дакладнага ўліку нацыянальных калектываў, выступленняў калектываў на ваяводскай сцэне аматара, арганізцыі ваяводскага агляду, выстаўкі народнай творчасці, абсталяванняў калектываў у прылады і забеспячэнне добрым рэпертуарам. Для ВДК — мець на ўвазе нацыянальную спецыфіку ваяводства на семінарах і курсах, інструкцыйна-метадычная дапамога, апека над кіраўнікамі з вёсак. (вл)

# Малако

У часе большага прыплыву малака ў бельскую малачарню, гэта значыць у канцы мая і пачатку чэрвеня, прымае яна каля 100 тысяч літраў малака ў дзень. Гэта ўжо добры купальны басейн. Малачарня працуе тады «на ўсю пару». Цёплая пара года прымушае да хуткай пераапрацоўкі малочнага басейна. Вядома, малако, як малако — пастаіць некалькі гадзін ды і скісне. Малачарня не дапускае аднак да таго, каб малако кісла. Хутка пераапрацоўвае яго на вартасныя прадукты: масла, сыр, парашок і г.д.

Бельская малачарня пабудавана параўнальна нядаўна — усяго 15 гадоў таму назад. Ад таго часу аднак непамерна яна разбудавалася і ўсучаснілася. У часе ўзнікнення бельскай малачарні абслугоўвала яна тры паветы: Бельскі, Гайнаўскі і Сямяціцкі. Зараз на гэтай тэрыторыі існуе чатыры малачарні: апрача бельскай працуюць яшчэ малачарні ў Гайнаўцы, Сямяцічах і Браньску. Непамерна ўзрасла таксама сетка пунктаў скупкі і колькасць скупленага ў іх малака. Узраслі даходы сялян. Адна бельская малачарня выплачвае сялянам каля 47 мільёнаў злотых у год. Пасля пабудавання малачарні 15 гадоў таму назад скупоўвала яна з трох паветаў каля 14 мільёнаў літраў малака ў год. Зараз з аднаго Бельскага павета скупоўваецца каля 18 з паловаю мільёнаў літраў у год. Цікава, што колькасць кароў у сялян у тым самым часе амаль не пабольшылася. Сяляне пераканаліся аднак, што больш карысна і выгадна прадаваць малако дзяржаве, чымсьці гаспадарыць ім самім «хатнім спосабам», прытым павысілася значна ўдойнасць кароў. Надалей аднак, паводле падлікаў, каля 50 працэнтаў гаспадарскага малака не трапляе ў малачарню, сяляне гаспадараць ім на свой спосаб. Ці не замнога?

Бельская малачарня — адна з найлепшых малачарняў у краіне. Яе вырабы слаўныя, даслоўна, на ўвесь свет. Бельскае масла экспартуецца ў Англію, малочны парашок у Індыю. З'яўляецца яна другой у краіне малачарняй, якой вырабы атрымалі найвышэйшы знак якасці — знак Ку. Першым такога роду прадпрыемствам з'яўляецца малачарня ў Новым Томыслі каля Познаня.

Прадукцыя малачарні зводзіцца перш за ўсё да трох сортаў вырабаў: масла, сыраў і малочнага парашку. Прадукцыйныя планы малачарні безупынна перакрочваюцца. Лічбавыя паказальнікі гадовай прадукцыі аграмадныя: 677 тон масла, 144 тоны сыраў, 971 тона малочнага парашку. Прытым высокі працэнт бельскай малочнай прадукцыі — гэта прадукцыя I сорта. Так, напрыклад, I сорт масла складае 95 працэнтаў усяе прадукцыі масла, а I сорт сыру — 80 працэнтаў усяе прадукцыі сыру.

Бельская малачарня безупынна палепшвае сваю тэхнічную базу і тэхналогію прадукцыі, пашырае таксама ў тэрэне сетку пунктаў скупкі малака. Так, напрыклад, у гэтым годзе адкрыецца ізноў 7 новых пунктаў скупкі. Будуць гэта між іншым вёскі: Мелешы, Плёскі, Градалі, Шасталы. Агульна беручы, зараз у Бельскім павеце дзейнічае 60 пунктаў скупкі малака, апрача таго з многіх вёсак гаспадары самі возяць малако ў малачарню.

Не гледзячы на вельмі хуткае развіццё малачарскай прамысловасці на Бельшчыне ўсё яшчэ час ад часу наглядаецца недахоп на ўнутраным рынку малочных прадуктаў, перш за ўсё сыраў, а ў летні час і малака. Малачарская спулдзельня здае сабе з таго справу і імкнецца ў роўнай ступені павышаць сваю прадукцыю на экспарт, за мяжу, як і на ўнутраны, мясцовы рынак.

Малако — гэта багацце Беласточчыны. Багацце нашых гаспадароў, якія ад малака маюць немалыя даходы, і багацце бельскай малачарні, якой гадавы даход вышэй 5 мільёнаў злотых. (п)

# КАНЦЭРТЫ ХОРУ І ЭСТРАДЫ

У культурным жыцці Бельскага павета хор аддзела БГКТ з'яўляецца цяпер галоўнай часткай. Яго выступленні на ўрачыстых павятовых пасяджэннях звязаных з рознымі гадавінамі складалі мастацкую частку ўжо год таму назад і нават раней. 18 выступленняў хору ў мінулым годзе ў многіх мясцовасцях Бельскага і іншых паветаў прычыніліся да далейшага яго ўдасканальвання. Кожны выезд на канцэрт быў свайго роду экзаменам. Бо на рэпетыцыях, нават найбольш дакладных, нельга ўбачыць так ярка станоўчыя бакі і недахопы. Асабліва бачыць іх у час канцэртаў дырыжор Юрка Шурбак. Бельскі харавы калектыў дабіўся ўжо высокага мастацкага ўзроўню. 11-га сакавіка разам з эстрадай ГП БГКТ «Лявоніхай» (якой таксама Юрка Шурбак з'яўляецца кіраўніком) гэты саракаасабовы харавы калектыў даў два канцэрты для грамадскасці горада Бельск Падляшскі.

Ішлі на гэты канцэрт харысты з вялікім хваляваннем, бо ўсе ведалі, што будуць на ім сваякі, суседзі, прадстаўнікі гарадской і павятовых улад, а таксама і тыя людзі, якія бываюць часта і на выступленнях прафесіяналаў. Хваляванне было тым большае, што білеты былі раскуплены на два канцэрты, на 17-тую і 19-тую гадзіны. Гэта значыць 4-ры гадзіны творчай напружанасці для харыстаў без прывычкі і пасля цэладзённай працы не было лёгкай задачай.

А 17-тай гадзіне ўсе 380 месц залы кіно былі заняты. І вось падымаецца занавес. У народным адзенні на сцэне ў трох радах стаяць харысты Бельскага аддзела БГКТ. З прывітальным словам звяртаецца да прысутных салістка эстрады «Лявоніха» Марыся Мароз, якая аднačасова заказвае выступленне хору. Выходзіць дырыжор Юрка Шурбак, падае сігнал акардыяністу і харыстам, і па зале панеслася прывітальная песня. Потым была выканана наступная. Пасля першай, пасля другой і кожнай наступнай песні раздаваліся апладысменты. Ажыла зала. Знікла хваляванне з твараў харыстаў, а паявіліся на іх радасць і задавальненне. Бо як усё ж прыемна, калі ўся зала моцна апладзіруе, крычаць «біс». Харысты паўтараюць песню. Усе галасы як: сапраны, тэнары, альты і басы добра, гарманійна спраўляліся са сваімі заданнямі.

На ўзроўні выконваліся песні і пасобнымі салісткамі і салістамі, дуэтамі, трыё і квартэтамі.

Большасць з іх выконвалася ў суправаджэнні хору.

Эстрада «Лявоніха» часткова выступала самастойна, а часткова супольна, і таксама ў суправаджэнні хору. Узнагароджваліся моцнымі апладысментамі і гумарыстычныя нумары Юркі Шурбака і Івана Блізнюка.

Першы двухгадзінны канцэрт закончыўся і пасля некалькімінутнага перапынку пачаўся другі канцэрт. Праходзіў ён таксама ў вельмі цёплай атмасферы, з бурнымі апладысментамі і паўтарэннямі песень для «бісуючай» залы. Але першая публіка стварыла атмасферу не толькі задавальнення, але проста захаплення.

На заканчэнне трэба сказаць, што для Бельскага хору БГКТ дзень 11 сакавіка быў незвычайным вялікім і цяжкім экзаменам. (Аб эстрадзе мы раскажам праз нейкі час аддзельна). І харысты яго здалі амаль на выдатна. Гавару «амаль» таму, што некаторыя нумары праграмы трэба яшчэ лепш дапрацаваць, трэба дашліфаваць так, каб нельга было дашукацца закідаў. А каб так сталася, на гэта існуюць усе даныя і ўмовы.

Напэўна ўдзельнікі хору вярнуліся дахаты з пачуццём добра споўненага задання. Можна сказаць, што двух заданняў, двух абавязкаў. Першы, гэта праца ў хаце, на прадпрыемстве або ва ўстанове ці на гаспадарцы, другі абавязак выкананы ўжо пасля прафесіянальнай працы, на вялікай сцэне бельскага кіно «Зніч».

Тэкст і фота: **М. Хмялеўскі**



**Бельскі хор БГКТ. Дырыжор Юрка Шурбак.**

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### У ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІМ РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ПАДПОЛЛІ

Калі Вера пачала сваю дзейнасць у заходнебеларускім рэвалюцыйным падполлі (люты 1924 г.), ёй было толькі дваццаць гадоў. Ужо тады В. Харужая валодала ўсімі якасцямі, уласцівымі камуністу: гарачай верай у праўду вялікіх ідэй ленінізма, бязмежнай адданасцю справе Камуністычнай партыі і савецкай улады, гарачым жаданнем прыняць актыўны ўдзел у барацьбе прыгнечанага польскімі памешчыкамі і капіталістамі беларускага народа за вызваленне, за ўз'яднанне з БССР.

Але яна прыйшла туды без дастатковага ведання ўмоў падполля, без навыкаў канспірацыі. Яе, як і ўсіх нас вучыла само жыццё, вопыт старых польскіх рэвалюцыянераў, які яна добра засвойвала...

Яна ездзіла па вёсках і мястэчках Палесся, Слонімшчыны, Навагрудчыны, падоўгу затрымлівалася ў Беластоку, Вільна, Гродна. Выступала на нелегальных масоўках з палымянымі прамовамі, якія клікалі да барацьбы, арганізоўвала камсамольскія ячэйкі*, гарадскія і раённыя камітэты, дапамагала ствараць маладзёжныя секцыі ў прафсаюзах, пісала адозвы.

Пры ўсёй сваёй шматграннай і кіпучай дзейнасці яна заставалася няўлоўнай для паліцыі. Рухавая, яна знешне не вызначалася сярод іншых жанчын, добра ведала польскую, беларускую і нават яўрэйскую мовы, была моцна звязана з простымі людзьмі, якія ахвотна давалі ёй прытулак, і яна лёгка ўхілялася ад праследванняў агентаў дэфензівы.

Вера валодала нейкай выключнай здольнасцю заражаць моладзь сваім аптымізмам, рэвалюцыйным запалам, асабістым прыкладам. Яна арганічна не цярпела адзіноцтва, заўсёды вакол яе была моладзь, прагнучая барацьбы з ненавісным ворагам. Гэта і рабіла яе важаком, арганізатарам рэвалюцыйнай моладзі.

Пры актыўным удзеле Веры камсамол Заходняй Беларусі ў 1924—1925 гадах з разрозненых і нешматлікіх гурткоў рэвалюцыйнай моладзі вырас у масавую арганізацыю. Ён выхаваў нямала добрых важакоў, асабістых сяброў Веры і яе таварышаў па барацьбе.

Вядома, Вера была не адна. У камсамоле Заходняй Беларусі разам з ёю раслі і выхоўваліся выдатныя кіруючыя кадры. Усе яны засталіся вернымі вялікай справе барацьбы за камунізм, адны — у Польскай Народнай Рэспубліцы, другія — у БССР. Некаторыя з іх загінулі...

Летам 1925 года камсамол Заходняй Беларусі рыхтаваўся да сваёй 2-й канферэнцыі, якую было вырашана склікаць у Вільна. Я працаваў тады сакратаром Віленскага акруговага камітэта Кампартыі Заходняй Беларусі. Вера прыехала ў сувязі з канферэнцыяй у Вільна, і мы часта сустракаліся на канспіратыўных кватэрах.

Для ўдзелу ў рабоце канферэнцыі ў Вільна прыехаў прадстаўнік ЦК камсамола Польшчы таварыш «Олек» (А. Завадскі). Ён прыбыў на партыйную яўку для сувязі са мною. Разам з Верай яны і рыхтавалі канферэнцыю.

Падрыхтаваць і правесці канферэнцыю ў нелегальных умовах было справай не лёгкай і вельмі адказнай. Але нашы віленскія камсамольцы, хоць і не без цяжкасцей, з ёю справіліся.

Камсамол рос і ўмацоўваў свае рады. Расла разам з ім і Вера.

У падполлі, як нідзе, партыйны кіраўнік павінен быць самастойным, смелым у прыняцці рашэнняў у залежнасці ад новай сітуацыі. Вера валодала гэтай якасцю.

Летам 1925 года ў Варшаве адбыўся такі выпадак. Пры спробе знішчыць небяспечнага правакатара Цахноўскага трое выканаўцаў — член Варшаўскага камітэта Кампартыі Польшчы Гібнер і варшаўскія камсамольцы Кнеўскі і Рутоўскі — вымушаны былі ўступіць ў перастрэлку з паліцыяй, якая праследвала іх на вуліцах Варшавы. Параненыя і знясіленыя, яны былі затрыманы і арыштаваны. Справа атрымала шырокую вядомасць. Буржуазная прэса, апісваючы здарэнне, са скуры вон лезла, абвінавачваючы Кампартыю ў правядзенні індывідуальнага тэрору, і патрабавала суровай расправы з ёю. На гэта трэба было рэагаваць ад імя партыі. У Вільна адбылося пасяджэнне сакратарыята ЦК КПЗБ, на якое прыбыла з Беластока Вера. Было вырашана тэрмінова выдаць адозву ад імя ЦК. Вера сказала, што ў яе ўжо напісан праект такой адозвы. З патаемнай кішэні сваёй сумачкі яна дастала акуратна складзены лісток тонкай паперы, спісаны дробным почыркам. Азнаёміўшыся з тэкстам, мы ўнеслі ў яго некалькі паправак і адаслалі ў нелегальную друкарню. Адозва была выдана і шырока распаўсюджана.

Вера вельмі клапацілася аб выхаванні камсамольцаў розных нацыянальнасцей — беларусаў, палякаў, украінцаў, яўрэяў, літоўцаў — у духу пралетар-

# ЧАМУ ЯЛОЎКА „ЯЛОЎКАЙ“ ЗАВЕЦЦА?

Нейкі жыхар Ялоўкі — гэтай, што ва ўсходнім кутку Беластоцкага павета, ля самай дзяржаўнай мяжы — скардзіўся ў лісце да рэдакцыі газеты «Жыце Варшавы», што іх вёска брыдка называецца, што дзяцей з Ялоўкі вучні ў іншых школах «бычкамі» празываюць і розныя анекдоты пра іх расказваюць, што жыхары суседніх вёсак з ялаўчан насмейваюцца.

Рэдакцыя паважанага дзённіка не змагла, на жаль, паясніць паходжання назвы цяперашняй вёскі Ялоўка. Справу развязаў магістр Міхась Кандрацюк, які зараз з'яўляецца навуковым супрацоўнікам аднаго з аддзелаў Польскай Акадэміі навук і спецыялізуецца ў даследванні паходжання назваў розных мясцовасцей на Беласточчыне. Пра Ялоўку напісаў ён абшырны артыкул, які яшчэ ў 1964 годзе быў надрукаваны ў кніжцы „Acta Baltico-Slavia", t. I.

Гэты навуковы часопіс вядомы толькі спецыялістам і нічога дзіўнага, што жыхары Ялоўкі і сябры з «Жыцця Варшавы» не змаглі даведацца крыніц назвы Ялоўка.

**Перш за ўсё Ялоўка не мае нічога супольнага з ніякай жывёлінай.** Гэтая назва не выводзіцца ад JAŁÓWKI, што па-беларуску гучыць: «ялаўка» або «ялавіца» (з націскам на «я»), а па-руску — яловка.

**Назва мясцовасці Ялоўка выводзіцца ад дрэва — ад ЯЛА і ад яловага лесу,** з якім таксама звязана назва мясцовай рэчкі.

Назва **ЯЛОЎКА** вельмі часта сустракаецца ў Беластоцкім ваяводстве і за яго межамі. Маем 9 вёсак Яловак або **падобных, 3 рэчкі** Ялоўкі, назвы лугоў, урочышчаў, палёў. Паўтараецца яна на тэрыторыі Савецкай Беларусі і Расіі. Магістр Міхась Кандрацюк даказвае, што назвы тыпу «Ялоўка» выводзяцца **ад праславянскіх слоў «едля», «едль»,** ад якіх у польскай мове ўзнікла слова **«jodła»,** а ў беларускай і рускай — **«ял».** Няма, на жаль, магчымасці, каб дакладна тут пераказаць доказы, якія прыводзіць мгр Міхась Кандрацюк. Зацікаўленых адсылаем да яго артыкула ў кніжцы «Acta Baltico-Slavia», якую можна дастаць у бібліятэцы.

Жыхарам Ялоўкі варта ведаць, што іх мясцовасць мае вельмі доўгую і багатую гісторыю. Вядома, што яшчэ ў 1545 годзе польскі кароль Зыгмунт Аўгуст прысвоіў Ялоўцы гарадскія правы. Асаду Ялоўка на гандлёвым шляху з Варшавы ў Мінск праз Нараў і Валкавыск заснавала, мабыць, каралева Бона, **якая** ў Ялоўцы пабудавала касцёл і пасяліла венгерцаў. Горад меў тады ўжо 5 вуліц і быў цэнтрам каралеўскіх маёмасцей, якія **складалі Ялоўскае старaства.**

У 1775 годзе шляхецкі сейм Ялоўскае староства аддаў на 50 год у арэнду **Міхаілу Бульгарыну.** Яго правы да Ялоўкі 17 год пазней пацвердзіў апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст. Вядома, што ў 1878 годзе Ялоўка налічвала 1090 жыхараў. Пазней аднак Ялоўку далёка абышлі чыгуначныя і шасейныя дарогі. Не стала гаспадарчых стымулаў для яе развіцця. Цяпер Ялоўка з'яўляецца толькі вёскай, у якой жыве 704 жыхары. Аднак няма ніякіх асноў, каб яе суседзі насмейваліся з ялаўчан. Такой багатай гісторыі толькі пазайздросціць.

В. Р.

## 10 парад лекара — псіхіятра для адзінокіх

**Першая парада агульная:** трэба прызвычаіць сябе да адпаведных адносін з людзьмі.

**Другая парада:** хаця адзін раз у тыдзень запрасіць да сябе кагосьці або пастарацца, каб хтосьці запрасіў.

**Трэцяя парада:** калі ніхто не запрашае, трэба пайсці самому.

**Чацвёртая парада:** не спадзявайся, што хтосьці загаворыць да цябе і пачнецца гутарка; трэба самому праявіць актыўнасць.

**Пятая парада:** памятай, што хацець — гэта яшчэ мала, каб знайсціся сярод людзей; трэба гэтага навучыцца і вырабіць у сябе адпаведныя звычкі.

**Шостая парада:** каб умець знайсціся сярод людзей, трэба умець слухаць: неабавязкова трэба слухаць вельмі ўважліва — даволі адпаведна пахіліць галаву і кіўнуць час ад часу.

**Парада сёмая:** неабходна ўмець уступаць, нельга з дробязі рабіць вялікай справы; не заўсёды трэба гаварыць «не». Гэта нервуе.

**Восьмая парада:** дзяўчына ці жанчына час ад часу знаходзіцца ў сітуацыі, калі адной размовы мала; тады трэба карыстаць з тысячагадовых дасведчанняў жанчын у дачыненні да мужчын. Вынікае, што даволі абяцаць, абяцаць, абяцаць, абяцаць...

**Дзевятая парада:** не парывай лёгкадумна сувязей са знаёмым ці знаёмай; перш трэба мець кандыдата на новага знаёмага (знаёмую).

**І дзесятая парада:** пазбудзешся пачуцця адзіноцтва тады, калі пастаянна будзеш шукаць магчымасцей знаходжання разам з іншым чалавекам або групай людзей.

(а-ся)

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

Пры варцы малочнай кашы соль трэба класці ў малако перад закладкай круп.

* * *

Звараныя, астуджаныя цялячыя ножкі трымайце ў булёне або ў халоднай падсоленай вадзе (10 г солі на 1 л.)

* * *

Мясны булён для супаў трэба абавязкова варыць з рэпчатай цыбуляй і пахучымі карэннямі: морквай, пятрушкай, сельдэрэем, папярэдне абсмажыўшы іх без тлушчу. Такі булён будзе асабліва прыемны на смак і духмяны.

## ШТО РАБІЦЬ ПАСЛЯ СПР?

Ваяводская камісія ОГП пры ЗМС і ЗМВ арганізуе ад красавіка да канца года стажы для абсальвентаў СПР-аў і ПР-аў, якія закончылі 17 год — хлопцаў і дзяўчат з малых гаспадарак, або з многадзетных сем'яў.

Стаж прадаўжаецца 6 або 9 месяцаў. Пасля атрымліваецца ступень кваліфікаванага рабочага і можна працаваць у розных сельскагаспадарчых прадпрыемствах: ПГР-ах, ПОМ-ах, сельскагаспадарчых гуртках і г.д.

Кватэры падчас стажу бясплатныя, заробкі 700 зл. плюс 25 працэнтаў прэміі.

Дзе знаходзяцца стажавыя цэнтры?

1) Stacja Nasienno-Szkółkarska w Stelmachowie, pow. Białystok, 25 dziewcząt (od 18 lat), kierunek ogrodniczo-szkółkarski.

2) PGR Nowa Karczma, pow. Bartoszyce, 20 osób (dziewczęta i chłopcy), kierunek ogólnorolny i kurs traktorzystów.

3) Stacja Hodowli Roślin w Pisanicy, pow. Ełk. 15 dziewcząt, kierunek — hodowla ziemniaka eksportowego.

4) PGR Kraki, pow. Morąg, 15 osób (dziewczęta i chłopcy), kierunek ogólnorolny i kurs traktorzystów.

5) PGR Borzymy, pow. Ełk. 24 chłopców, kierunek ogólny i kurs traktorzystów.

Хочучы выбрацца ў якое-небудзь з пададзеных месц, трэба пісаць у Ваяводскую камісію ОГП, Беласток, вул. Прухняка 3 далучаючы: заяву, біяграфію, 2 здымкі, пасведчанне з СПР-у або ПР-у, метрыку, скіраванне на стаж з павятовага праўлення ЗМВ.

(вл)







## НАВІНКІ ТЭХНІКІ

## РАДЫЁПРЫЁМНІК

**Адзін з радыёзаводаў РСФСР выпрадукаваў серыю касмічных радыёпрыёмнікаў, якія паказаны на здымку.**

**Радыёпрыёмнік «Палёт» велічынёй 60х80х20 міліметраў мае выгляд праставугольніка. Прыёмнік «Селена» — круглы як шар, а дыяметр яго абудовы крышку большы ад даўжыні карабка запалак. Пакручваючы верхняе паўшар'е прыёмнік настройваецца. Можна яго насіць на ланцужку на шыі, як своеасаблівы медальён. І прыёмнік «Луннік» мае выгляд савецкага месячнага зонда. Дыяметр яго — 50 мм, а прыёмнічак такі дасканала надаецца на ўпрыгожванне пісьмовага стала.**

(А-ка)




Чорнае неба ўсыпана зоркамі. Яны мігаццяць і пульсуюць. І ў гэтым дзіўным свеце, пакінуўшы ззаду выспу і базу, плыве Карцаў, плыве невядома куды, зноў адзін у начным акіяне.

З шорахам набегла хваля, накрыла з галавою. Карцаў адплёўваецца, рухам рукі адкідае назад мокрыя валасы. Трэба плысці! Да мэты каля дваццаці міль. Мэта — гэта далёкая скала, якая была відаць з борту карабля.

Світанне падкрадваецца непрыкметна. Памалу з малочнага туману выступае шырокая паласа мора. Дзе ж скала? Карцаў дарма ўглядаецца ў мора. Скалы няма, хоць ёй пара ўжо паказацца. Ці не збіўся ён з курсу?

Напружаючы ўсе сілы, ён прыпадымаецца ў вадзе; выцягнуўшы шыю, дакладна вывучае гарызонт. Ён усё больш верыць, што скала — гэта ратунак. Са скалы яго абавязкова прыкмеціць нейкі карабель. Яго ўбачаць, возьмуць на борт. Толькі б адшукаць скалу!

І тут ударае шквал. Вецер крэмзае мора на дробныя злосныя хвалі. Карцаў адчайна змагаецца са стыхіяй. Хвалі штурхаюць яго, б'юць у патыліцу, у твар; вада залівае рот.

А шторм мацнее. Усё цяжэйшыя валы. Кожны, дагнаўшы плыўца, уздымае яго на грэбяні, каб тут жа скінуць, захліснуць, раздушыць.

Аб тым, каб трымацца патрэбнага кірунку, Карцаў ужо не думае. Усе намаганні сканцэнтраваны на адным: не захліснуцца, паспець зрабіць удых, перш чым накрые чарговая хваля.

Вецер раскідаў пасмы туману, і гігантычная шэрая махіна вырасла раптам у якой-небудзь паўмілі. Карцаў бачыць змрочныя крутыя сцены і каралі бурунаў пад імі. Рыфы? Так, скала ў кальцы рыфаў.

Вялікая хваля. Плывец на яе вяршыні. Цяпер скалу відаць лепей. Да яе зусім недалёка. Але ён ужо не спяшае. Трэба ўсё агледзець, знайсці месца для выхаду з вады.

Зноў і зноў узлятае Карцаў на хвалях, набліжаючыся да скалы. Гэта маналітная веліч, зверху гладкая, а ў ніжняй частцы спярэшчана трэшчынамі і ўглыбленнямі. Перад ёю — града ўцёсаў, выставіўшых з пеннай вады чорныя завостраныя клыкі. Калі нават пашанцуе праслізнуцца скрозь рыфы, шанцы выратавацца невялікія — першая ж хваля можа разбіць плыўца аб гранітны бок уцёса.

Выхад адзін — абысці скалу і падабрацца да яе з падветранага боку, дзе зацішша. Карцаў крута паварочвае. Плысці стала яшчэ цяжэй — цяпер ён рухаецца наперарэз шторму. Ён напружвае ўсе сілы, але дарма. З кожнай секундай грохат прыбоя павялічваецца. Яго зносіць.

Скала зусім побач — выразна відаць, як хвалі ўрываюцца ў шчыліны і дзіркі яе ніжняй часткі, выплёскваюцца адтуль, зноў налятаюць на каменне. Вось-вось Карцава падхопіць і панясе на рыф. Да рыфаў метры. З вады вырастае камень з зубчатай як грэбень, вяршыняй. Хвалі разбіваюцца на ім, найбольшыя — перахлёстваюць праз «грэбень». А паміж рыфамі і скалай быццам вадзяны калідор. Кальцо амаль ціхай вады.

Плыўца падцягнула да грэбеня ўпрытык. Мільганула дзікая думка — праімчацца над ім на вяршыні хвалі. Але для гэтага патрэбна самая вялікая хваля, звычайная кіне на каменныя зубы.

Хваля падымае Карцава. Вышэй, яшчэ вышэй! Ён над рыфам. Няўжо жаданы «дзевяты» вал? Не, вяршыня хвалі выгнулася. Зараз разляціцца. Маланкай бліскае ў мазгу: «Не чакаць, дакрануцца «грэбеня» раней, чым у яго ўдарыць хваля!» У той жа міг ногі рэзкім рухам выкінуты наперад. Пад нагамі апора. Выгнуўшыся ўсім целам, ён на імгненне ўстае на вяршыні каменя. У наступны міг паток вады абрушваецца на плыўца, душыць яго, мне. Але, аглушаны, ён ужо па той бок рыфа — каля самай скалы, у паласе адноснага зацішша. Плынь цягне яго ўбок. Плынь агібае скалу. Хутка ён будзе ля яе падветранага боку і выберацца з вады.

Аднак яму рыхтуецца новае выпрабаванне. Спераду вада рухаецца ў дзіўным рытме. Няўжо варонка?

Так, вір! Карцава нясе ўсё хутчэй, хутчэй — да края спадзістага вадзянога конуса. А потым перад вачыма толькі сцяна вады. Карцаў галавою ідзе пад ваду. Ён ведае: віры страшныя на паверхні. На глыбіні сіла іх хутка слабее. Спусціцца як найніжэй і пад вадою адплысці ад небяспечнага месца — адзіны ратунак.

Карцаў вертыкальна ідзе ўглыбіню. Неўзабаве вада супакойваецца. Цяпер ён плыве ўздоўж падводнай часткі скалы, усеянай трэшчынамі і гротамі.

Пара падымацца. Ён выкідвае рукі ўверх і... спешна хаваецца ў водарасцях. Над ім плыве чалавек. Невядомы ў гумовым касцюме, у шлёме і з дыхальным апаратам на грудзях. На нагах у

# ТРЫБУНА чытачоў

У справе публікацыі

## «ПА СЦЕЖКАХ ЛЮДСКОЙ КРЫЎДЫ»

Трыбуна чытачоў — гэта адна з вельмі цікавых старонак нашага часопіса «Ніва». Я асабіста цікавіўся, ад чаго пачынаюць чытаць нашыя сяляне, і далося заўважыць, што многія пачынаюць чытаць ад 7 і 8 старонкі. Я думаю, што «Трыбуна чытачоў» не толькі для таго, каб паінфармаваць чытачоў, што робіцца ў той ці іншай вёсцы або горадзе, але на яе старонцы павінны развівацца дыскусіі над некаторымі праблемамі, закранутымі чытачамі.

Адным з цікавых і вельмі важных артыкулаў «Трыбуны» быў артыкул, надрукаваны ў № 10 з дня 10 сакавіка г.г., пад загалоўкам «Па сцежках людской крыўды», напісаны аўтарам КП з Крушынян. Прачытаўшы гэты артыкул, я не магу ўявіць сабе, якім чалавекам з'яўляецца мясцовы грамадскі апякун і тых людзей, якія даверылі яму гэтую работу. Кожны апякун паносіць адказнасць за справы, якія яму даручылі. Аўтар гэтага артыкула, пішучы да рэдакцыі, павінен быў, мне здаецца, напісаць прозвішча паважанага апякуна. бо я думаю, што ён мае якуюсь нянавісць да гэтых жанчын. Сёння стараецца паказаць, што ён умее. На маю думку, калі яму даверылі гэтую работу, то няхай жа пакажа, што ўмее. Ці ж справа апякуна — ускладняць жыццё чалавеку, ці яму дапамагаць? Калі дапамагаць, то дапамагай. Ёсць такая прыказка — дрэннае то і дурань зрабіць можа, але будзь мудры — і зрабі добрае. Людзі, якія прычыняюцца да стварэння галадоўкі жанчынам, павінны быць прыцягнуты да адказнасці.

**Мікола Краўчук**
Патока

## ПА ВІНО Ў НЕТУПУ

Ляшчанскія хлопцы рослыя, прыгожыя, вясёлыя. Зусім інакш яны выглядаюць у нядзелю, калі вяртаюцца з Нетупы (Сакольскі павет), «высушыўшы» кожны па бутэльцы або больш віна. Тады іх не пазнаюць аднавяскоўцы. А вось адзін жыхар вёскі, атрымаўшы выплату ў надлясніцтве Валілы, так «нашпарыўся» алкагольных напіткаў, што вяртаючыся дамоў натварыў «камедыяў». У Нетупе так цалаваў крамара, што аж кроў пацякла ў таго з твару, а ў Слабадзе прычапіўся да адной жанчыны, уяўляючы яе сваёю жонкаю.

В. П.
Лешчаная

## ЛІКІ АБ НАСТАЎНІКАХ

У Гайнаўскім павеце 340 настаўнікаў — членаў ПАРП. З іх 9 вядуць вясковыя асветна-палітычныя курсы ў такіх мясцовасцях, як Чыжы, Ляшукі, Нараўка, Трасцянка, Белавежа.

Заняткі па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы вядзе 14 настаўнікаў — у вёсках Трасцянка, Мора, Ліпіны, Навасады, Буды і Скупава .

300 настаўнікаў працуе ў школьных маладзёжных арганізацыях. 21 асоба — у радах ЗСЛь. У грамадскіх радах клубаў працуе 35 настаўнікаў.

**Янка Цялушэцкі**

яго ласты, у руцэ восці, на якіх б'ецца вялікая рыба.

У галаве адна думка: вытрымаць, не захлiснуцца. Секунды цякуць. Чалавек адплывае. За ім цягнецца рыжая паласа — кроў, якая цячэ з ран ахвяры.

Можна ўсплываць. На шляху да паверхні ён бачыць: рыба сарвалася з восцяў, апускаецца на дно, а за ёю паляўнічы. Што, калі невядомы прыкмеціў Карцава?

Вынырнуўшы і глытнуўшы паветра, ён разглядаецца. Зусім побач скала, і ў ёй шырокая шчыліна. Хутчэй туды!

Карцаў кінуўся ў шчыліну і плыве па вузкім каменным калідоры. Памалу тунель пашыраецца. Ён уплывае ў грот. Навокал змрочна і ціха. Здалёк свеціцца маленькі трохкутнік — шчыліна, праз якую ён прасачыўся сюды. Што рабіць? Вяртацца? А калі той, з восцямі, прытаіўся ля ўваходу... Не, лепш пачакаць. Ён лягае на спіну. Лежачы ў вадзе, ён адпачывае. І раптам промень святла знік са скляпення.

Карцаў страпянуўся. Ён забыў аб прыліве. А вада падкралася, заліла шчыліну. Хутчэй да выхаду! Кінуўшыся наперад, Карцаў натыкаецца на выступ. Адкуль ён? Зусім нядаўна яго не было.

Ён успамінае. З купала тунеля спускаўся каменны махор. Цяпер, у час прыліву, ён перагарадзіў тунель.

Карцаў у пастцы. Пакуль не наступіць адліў, з гроту не выйсці.

**(Працяг будзе)**

## У ЛЯЎКОЎСКАЙ КРАМЕ



**Крама добра забяспечана ў спажывецкія тавары. Тут самаабслугоўванне.**

Фота Я. Цялушэцкі
Новае Ляўкова

## ПОЛІЭТЫЛЕНАВЫЯ МЯШКІ

У пачатку г.г. ПЗГС-ы атрымалі некаторыя мінеральныя ўгнаенні ў новых поліэтыленавых мяхах.

Варта ведаць, што ўгнаенні ў такіх мяшках могуць ляжаць пад адкрытым небам у любое надвор'е. Праз іх не праходзіць вільгаць. Мех такі ўсяго — 12 зл. 50 гр. Гайнаўскі ПЗГС мае зараз 50 тысяч такіх мяшкоў. 10 тысяч мяшкоў з поліэтылену прадалі ўжо ГС-ы сялянам.

Ц. Я.
Гайнаўка




**Дарагое Сэрцайка!**

Рашыла я напісаць да цябе некалькі слоў. Буду пісаць аб хлопцах. Мне 19 год. Вырасла на вёсцы. Цяпер працую далёка ад дому. Прыходзілася мне не раз пазнаёміцца з тым ці іншым хлопцам. Ну і што з гэтых знаёмстваў? Некаторыя хлопцы нават падабаліся мне, аднак я ім не спадабалася: несучасная, — як гаварылі. Кожны з іх у першы вечар хацеў бы зараз цалавацца. А калі я запярэчыла, дык ён на гэта: «што ты такая несучасная». І вось па прычыне маёй «несучаснасці» такі хлапец адыходзіць. Больш нават не пакажацца на вочы. А я не хачу быць футбольным мячом, каб пераходзіць з рук у рукі. Хачу знайсці хлопца, які будзе цаніць і мяне і сябе, і не будзе мяне вызываць ад адсталых, несучасных, які будзе мяне кахаць так, як я яго. Але мне здаецца, што я такога не знайду ў сённяшняй моладзі. Часам не хочацца ісці нават на забаву, знаёміцца з хлопцамі.

Ці сапраўды ўсе такія неразумныя хлопцы? Выдрукуй маё пісьмо, мо' яны прачытаюць, апамятаюцца і зменяць свае адносіны да дзяўчат.

Яніна з Беласточчыны

**Дарагая Янінка!**

Твае заўвагі адносна хлопцаў слушныя, калі разыходзіцца аб некаторых хлопцаў, аднак не можна, Янінка, па гэтых прыкладах асуджаць усю моладзь, як ты пішаш. Ты проста мела, як кажуць, «пэха», што сустракала сапраўды распушчаных, неразумных, некультурных хлопцаў. Аднак, вер мне, большасць хлопцаў, гэта хлопцы, якія вучацца, ці працуюць у горадзе, якія вельмі культурна адносяцца да дзяўчат, шануюць іх. А ты, Янінка, падумай толькі, а мо ты з'яўляешся прычынай такіх паступкаў хлопца да цябе? Падумай. Ёсць хлопцы добрыя і разумныя, і напэўна не раз яшчэ сустрэнешся з імі.

Жадаю ўсяго добрага
Сэрцайка

**У сакавіку адбылася ў Белавежы справаздачна-выбарчая канферэнцыя Грамадскага камітэта партыі. Гаварылася аб многіх актуальных справах, між іншым, што...**

## ТРЭБА ГАРАДЗІЦЬ ЛЕС, А НЕ ПОЛЕ

У цэнтры Белавежскай пушчы распаложана адна з найбольш нетыповых вёсак. Называецца Белавежай. Зямля тут не найгоршая, але цераспалосіца і шкоды ад лясных звяроў не дазваляюць павышаць культуру сельскай гаспадаркі Нашы палі ляжаць ля дзяржаўных лясоў надлясніцтва «Звярынец» і «Белавежа». У лясах мноства звяроў, а найбольшым шкоднікам з'яўляецца сам кароль пушчы — зубр. На волі іх цяпер аж 140 штук.

Вясной і ўвосень, калі ў лесе стае малавата ежы, зубры цэлымі стадамі пасуцца на нашых палях. Што горш, дагэтуль ніхто не плаціць адшкадавання за шкоды, якія робяць зубры. Нібы таму, што на зуброў не палюецца.

Летам дзікі і алені пасуцца на палях без перашкод. Нашы намаганні і праца сельскай службы ідзе намарна. На аснове ўказанняў IX Пленума ЦК партыі паклікана група спецыялістаў. Яна сабрала ўсе факты, якія перашкаджаюць у развіцці гаспадарчай прадукцыі. Але ж у нас не ўсё залежыць толькі ад самога гаспадара. У нашай сітуацыі прымяненне большай колькасці угнаенняў, уласцівая агратэхніка — гэта толькі выкідванне грошай. Як доўга так будзе? Ці сапраўды няма нікога, хто нашай сельскай гаспадарцы падаў бы руку дапамогі?

Мне здаецца, што лепшая ураджайнасць з нашых гаспадарак не залежыць толькі ад Міністэрства сельскай гаспадаркі, але і іншых міністэрстваў. А што ж дагэтуль у гэтай справе зрабіла Міністэрства лясніцтва?

Надлясніцтвы даюць дрэва на агароджу. Ды нямнога і гэта памагае. Дзік і алень дасканала сабе даюць раду з такой перашкодай, а што казаць пра зубра! Прэзідыум ГРН у Белавежы звярнуўся яшчэ ў мінулым годзе за пасрэдніцтвам надлясніцтва «Звярынец» да Акруговага праўлення дзяржаўных лясоў у Беластоку з просьбай, каб абгарадзіць палі пушчанскіх вёсак Пагарэльцы, Тэрэміскі і Буды. Да сёння аднак ніхто словам не адказаў на просьбу.

Хто мае злога сабаку, правам змушаны купіць яму аброжу. Чаму ж надлясніцтвы не абавязаны правам паступаць так, каб гаспадры не мелі такіх велізарных шкод. Па-нашаму, якраз лясы трэба гарадзіць, а не гаспадарскія палі.

**Аляксей Байко**
аграном, Белавежа

## ПАВЕДАМЛЕННІ З ДУБІЧ ЦАРКОЎНЫХ

У вёсцы Дубічы-Царкоўныя нядаўна адкрыта злеўня малака. Будынак яе быў ужо пабудаваны восенню мінулага года. Ініцыятарам будовы быў прэзідыум ГРН. Многія сяляне ў нашай вёсцы маюць добрыя надоі малака. Раней малака было столькі, што шмат яго аддавалася свінням. Цяпер ёсць дзе яго прадаць. Малако прымае маладая дзяўчына Надзя Клімюк.

* ✲ *

8 сакавіка ў Дубічах Царкоўных з нагоды свята жанчын адбылася ўрачыстая акадэмія ў зале святліцы. Быў прачытаны рэферат, а пасля адбылася мастацкая частка. Выступалі на сцэне вучні дубіцкай школы. На заканчэнне акадэміі кінаперасоўкай ГП БГКТ былі паказаны два савецкія фільмы: «Партызанская іскра» і «Над намі неба чыстае».

Зала ў час акадэміі была запоўнена людзьмі да апошняга месца.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ПРАКТЫЧНЫЯ СЕЯЛКІ

Нядаўна ў краме гаспадарскіх прылад, належачай да міхалоўскага ГС, паявіліся ў продажу бляшаныя тазікі дапасаваны да рассявання мінеральнага ўгнаення. Людзі акалічных вёсак раскупілі іх амаль за адзін дзень. Як паінфармаваў нас прадавец гр. Клімюк, гэтых тазікаў ніхто з другіх прадаўшчыкоў не хацеў браць. Ён забраў усе, прызначаныя для ўсяго павета. Людзі хваляць, што гэтыя тазікі вельмі лёгкія і прыстасаваны да ручнога высеву ўгнаенняў. Кожны дзень ёсць новыя купцы, якія адыходзяць з пустымі рукамі. Прапануем, каб нашыя гандлёвыя ўстановы задбалі і давязлі больш гэтых тазікаў.

Думаю, што і другія аколіцы будуць купляць гэтыя прылады, бо цяпер няма гаспадара, які не рассявае мінеральных угнаенняў.

К. П.
Міхалова

## ПЯТРО САЎЧУК

Пятро Саўчук з Кузавы працуе солтысам ужо чацвёртую кадэнцыю. Добра вывязваецца са сваіх абавязкаў. Заваяваў аўтарытэт у жыхароў сваёй вёскі, а таксама працаўнікоў ГРН у Чаромусе. Гэта добры гаспадар і арганізатар. Ахвотна ўдзельнічае ў грамадскіх чынах. З'яўляецца членам партыі і членам прэзідыума грамадскай рады нарадовай у Чаромусе. Часта выступае на пасяджэннях прэзідыума ў справах гаспадароў сваёй вёскі.

М. Кактус

# КІНО

**Праграма на 9—14.IV.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Iwono Gola" (czeski), 9—10. „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 11—12. „Samson" (polski), 13—14.

**Дубіны**
„Fifi piórko" (franc.), „Na pokładzie stanął kapitan" (radz.), 13—14.

**Нараўка**
„Dzieci Don Kichota" (radz.), „Dzielnica kruków" (szwedzki), 10—14.

**Нарва**
„Złoto" (polski), „Dzwony dla bosych" (czeski), 10—14.

**Чыжы**
„Teresa Desgueieux" (franc.), „Porucznik jazdy" (radz.), 10—14.

**Дубічы Царкоўныя**
„Zarezerwowane dla śmierci" (NRD), „Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zwariowana noc" (polski), „Szesnasta wiosna" (radz.), 10—14.

**Орля**
„Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), „Królowa stacjii benzynowej" (radz.), 10—14.

**Райск**
„Kochankowie z Marony" (polski), „Znowu Max Linder" (franc.), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 9—12.

**Міхалова**
„Kto zdobędzie puchar" (polski), 9—10. „Rok Franka W." (polski), 11—12. „Chewsburska ballada" (radz.), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Na froncie wojny domowej" (radz.), 9—10. „Na tropach szpiega" (radz.), 11—12. „Po kruchym lodzie" (radz.), 13—14.

**Шудзялава**
„Flip, Flap i inni" (USA), „Gorące lato" (jugosł.), 10—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Sami dwoje" (polski), „Gra bez reguł" (czeski), 10—14.

**Новы Двор**
„Flip, Flap i inni" (USA), „Gorące lato" (jugosł.), 13—14.

**Ліпск**
„Człowiek z karabinem" (radz.), „Grymasy" (węgierski), 13—14.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7719

